


Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# Рэгіянальная газета

15 жніўня 2003 года

№ 33 (434)
Выходзіць па пятніцах

ПАЮС Тэлетыдзень

**Навіны рэгіёну**

## Школа без дзяцей

ВАЛОЖЫН. З пачатку новага навучальнага года ў раёне закрыюць Філіпінядкую, Падневіцкую базавыя школы, Дварэцкую пачатковую школу-сад, Куцяняцкі дзіцячы сад.

Педагогаў, што працавалі ў гэтых установах, а іх 15, уладкаваць будзе складана. Раённаму аддзелу адукацыі патрабуюцца толькі 28 настаўнікаў. Сюды ж размеркавалі яшчэ 53-х маладых спецыялістаў.

**Ірына РАБУШКА.**

## Не давёз

СМАРГОНЬ. Крымінальную справу на 29-гадовага гараджаніна, які не давёз 2 тоны збожжа да элеватара, завялі супрацоўнікі аддзялення па барацьбе з эканамічнай злачыннасцю Смаргонскага РАУС. Дзірак у машыне яны не знайшлі. Затое высветлілі, што да месца назначэння вадзіцель дабіраўся 40-50 хвілін, замест 15 неабходных.

**Ірына РАБУШКА.**

## Неўладкаваныя выпускнікі

МАЛАДЗЕЧНА. 46 сёлетніх выпускнікоў школ, якія не паступілі ў навучальныя ўстановы, зарэгістравалі спецыялісты рэгіянальнага цэнтра занятасці насельніцтва. Летась іх было 143. Таму з верасня чакаюць новага наплыву неўладкаванай моладзі.

**Ірына РАБУШКА.**

## Смерць ад цыгарэты

МЯДЗЕЛ. 5 жніўня здарыўся пажар у Крывічах. У выніку пашкоджаны пакой жылога дома. І самае страшнае: загінуў гаспадар, жывёлавод мясцовай гаспадаркі. Прычынай пажару стала курэнне ў ложку ў нецвярозым стане.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

## Імёны бываюць...

ВІЛЕЙКА. Самае папулярнае імя, якім называюць сваіх дачушак маладыя маці-віляйчанкі, – Яна. Па-ранейшым шмат сярод немаўлят Насцяў, а вось Алены выбіліся ў лідэры толькі цяпер. Хлопчыкам найчасцей даюць імёны Валера, Дзіма, Данііл, Кірыл. А сярод рэдкіх – Рэнат, Марк і Захар.

**Ірына РАБУШКА.**

## Там, дзе жыў паэт

АСТРАВЕЦ. Чытанні, прысвечаныя 120-годдзю беларускага паэта Янкі Быліны (Яна Семашкевіча), прайшлі ў Лакцянах Спондаўскага сельсавета. У гэтай вёсцы ён правёў свае дзіцячыя гады. Да цяперашняга часу захаваўся дом, дзе жыў паэт. Успомніць Я.Быліну сабраліся аматары і прафесіяналы беларускага слова з раёна, вобласці і сталіцы.

**Ірына РАБУШКА.**

# Выбух каля Верадова

**МАЛАДЗЕЧНА. Пасадзіў дзед рэпку, а вырасла... бомба. Такое можа здарыцца з любым жыхаром вуліцы імя Коласа.**

Яна знаходзіцца каля чыгункі, якую падчас другой сусветнай вайны моцна бамбілі. Тады на месцы вуліцы было балота. Тры гады таму ў гэтым раёне, каля дэпо, знайшлі авіябомбу вагой за 100 кілаграмаў. І зноў яшчэ адна авіязнаходка, крыху меншая. Але, па словах галоўнага спецыяліста аддзялення прызыву ваенкамата Уладзіміра Дземідовіча, вельмі небяспечная.

Звычайна ваенныя снарады, якія знаходзяць, падрываюць у спецыяльна адведзеных для гэтага месцах каля Мінска ці Барысава. Сёлетнюю авіябомбу сапёры пабаяліся так далёка везці, бо яна магла разляцецца ў любы момант. Нават па горадзе было небяспечна транспартаваць. Таму яе адвезлі недалёка ад Маладзечна і ўзарвалі каля Верадова ў канаве паблізу лесу. Асколкі скіравалі акурат туды.

Жыхары з ціхай вуліцы, падобнай на вясковую, адносяцца да такіх знаходак інакш. Ды і людзі там не такія, як быццам вясковыя гараджане. Некаторыя "дбайныя" гаспадары кажуць, што няхай і бомба ў агародзе будзе. Маўляў, у гаспадарцы ўсё спатрэбіцца.

Знаходка ўскалыхнула размераныя дні жыхароў. Як на прадстаўленне збегліся і малыя, і дарослыя нават з суседніх вуліц. Успаміналі былое, раілі гаспадару з "небяспечнага" дома, што рабіць – гамонкі цяпер на два тыдні хопіць. Уладальніку спачатку падалося, што гэта камень, пачаў калупаць. А калі бліжэй прыгледзеўся, адразу пабег званіць у міліцыю. Не адзін раз яго сям'я наступала на гэту бомбу, яна была нібыта масцікам каля ўваходу на падворак. Сусед-пенсіянер Іосіф Будзько (ці як ён называе сябе "піянер") ўпэўнены, што бомба і ўвогуле пасляваенныя снарады ўжо не страшныя.



Пенсіянер Іосіф Будзько лічыць, што баявыя снарады, якія захаваліся ў зямлі пасля другой сусветнай вайны, бяспечныя. На самой справе гэта зусім не так.

Фота Ірыны РАБУШКІ.

Дасведчаны ж супрацоўнік ваенкамата Уладзімір Дземідовіч гаворыць зусім адваротнае. "Рэшткі" вайны часцей за ўсё знаходзяць, калі капаюць агарод ці праводзяць іншыя земляныя работы. Напрыклад, як цяпер падчас праводкі труб для газу. Дарэчы, летась на Маладзечаншчыне знайшлі 9 мінамётных і артылерыйскіх снарадаў. Сёлета — пакуль 2. Натыкаюцца на міны як дарослыя, так і дзеці.

І кожны з іх можа пацярпець.

**Ірына РАБУШКА, Святлана ЦІШКО.**

## Боль не сціхае



Маладзечанец Уладзімір Жук быў адным з першых, хто ступіў пасля аварыі на чарнобыльскую зямлю.

2-я старонка

## Быць настаўніцай і жанчынай

Расказ пра намесніка дырэктара СШ № 6 з паглыбленым вывучэннем англійскай мовы Руслану Бандаронак чытайце ў матэрыяле Святланы Цішко.

4-я старонка

## Лоск – цэнтр друкарства



Вёска Лоск – адно са старажытных паселішчаў у рэспубліцы, якое згадваецца яшчэ ў XIV стагоддзі.

7-я старонка

■ РЫНАК ПРАЦЫ

## Вакансіі

**МАЛАДЗЕЧНА. Звесткі з прадпрыемстваў аб неабходнасці ў кадрах.**

| Назва прадпрыемства Прафесія, пасада | Неабходна (чалавек) |
|---|---|
| **МП «Аграсінтэз»** (тэл. 3-05-21) | 7 |
| Вадзіцель аўтамабіля | 1 |
| Станочнік дрэваапрацоўчых станкоў | 5 |
| Электрык | 1 |
| **МП «Гайк»** (тэл. 3-70-65) | 2 |
| Вадзіцель аўтамабіля | 1 |
| Бухгалтар | 1 |
| **ЖРЭУ-4 (чыгунка)** (тэл. 42-7-56) | 2 |
| Пячнік | 1 |
| Электрагазазваршчык | 1 |
| **«Забудова»**, энергамеханічная служба (тэл. 99-4-23) | 6 |
| Слесар-рамонтнік | 2 |
| Электрагазазваршчык | 1 |
| Электраманцёр па рамонту абсталявання | 2 |
| Начальнік цэха | 1 |
| **УВП «Забудова-аўтатранс»** (тэл. 99-1-49) | 4 |
| Вадзіцель аўтамабіля (стаж работы) | 3 |
| Машыніст крана | 1 |
| **Калгас «Усход»** (тэл. 98-7-16) | 1 |
| Повар (4-5 разрадаў) на перыяд уборкі | 1 |
| **Калгас імя Гастэлы** (тэл. 26-1-38) | 6 |
| Рабочыя без прафесіі (на перыяд уборкі) | 6 |
| **Калгас «Гарадзілава»** (тэл. 24-0-24) | 15 |
| Рабочыя без прафесіі (на перыяд уборкі) | 15 |
| **КААП «Сельскі будаўнік»** (тэл. 5-31-31, 5-46-34) | 17 |
| Вадзіцель аўтамабіля | 1 |
| Муляр | 10 |
| Машыніст бульдозера | 1 |
| Сталяр | 5 |
| **Фабрыка мастацкіх вырабаў** (тэл. 7-18-83) | 1 |
| Слесар па рамонту швейнага абсталявання 6-7 разрадаў | 1 |

■ КАМУНАЛЬНАЯ КРАІНА

# Паштовыя беды

**МАЛАДЗЕЧНА. Калі вам адправілі пісьмо ці паштоўку, яшчэ не значыць, што вы іх атрымаеце. Чаму?**

Паглядзіце на свае паштовыя скрынкі (абаненцкія шафы), якія, як кажуць, прайшлі агонь, ваду і медныя трубы. А мо, іх і зусім няма. Тады самі адкажыце на гэта пытанне. Я ж з набалелым для многіх маладзечанцаў звярнулася да намесніцы начальніка раённага вузла паштовай сувязі (РВПС) Іны Кулік. Яна і растлумачыла, што з паштовымі бедамі гараджане могуць ісці ў свае домакіраўніцтвы, якія сочаць за паштовымі скрынкамі ў пад'ездах дамоў, альбо ў РВПС. На вузле сувязі дапамогуць і тым, чые прыстасаванні для карэспандэнцыі размешчаны на вуліцы, а таксама вяскоўцам.

Рамонтам і ўстаноўкай паштовых скрынак у РВПС займаюцца тры чалавекі з транспартнага ўчастка. У гаспадарцы пошты 11563 абаненцкія шафы, з іх 4120 – на раёне. Большасці за 30 гадоў стажу. Звыш за 3 тысячы скрынак атрымліваецца на кожнага "выратавальніка", якія яны не толькі рамантуюць, але і ўстанаўліваюць новыя, калі тыя знікаюць у невядомым напрамку. Аднойчы, як расказвае Іна Кулік, у Маркаве крадзежны перыяд быў. Як толькі дыскатэка ў вёсцы, так скрынка і знікае. Да гэтай пары не даведаліся, куды іх моладзь падзела.

У кампетэнцыі работнікаў пошты і ўмацаванне скрынак, а таксама прафілактычны агляд абаненцкай гаспадаркі сумесна з камунальнікамі. Па словах Іны Кулік, часцей за ўсё аб непаладках сігналізуюць паштальёны. Рамонт патрабуецца розны, часцей за ўсё трэба замяніць замок.

Што тычыцца домакіраўніцтваў, то з 1 кастрычніка 2001 года паміж поштай і імі заключаны дагавор. Паштовыя скрынкі лічацца ў іх на балансе. Домакіраўніцтвы павінны забяспечыць падыходы да абаненцкіх шафаў, належнае электрычнае асвятленне і санітарны стан. А таксама фарбаваць іх раз у чатыры гады ў пад'ездах і раз на год — на вуліцы. Толькі ўсім гэтым, па словах І.Кулік, займаецца РВПС за кошт уласных сродкаў. На яе думку, у домакіраўніцтва няма грошай на вышэйпералічаныя работы і жадання. Шкада, можа чалавек пісьмо чакае...

**Ірына РАБУШКА.**



Фота Ірыны РАБУШКІ.

**Абаненцкія шафы знаходзяцца на балансе домакіраўніцтваў. Камунальнікі павінны фарбаваць іх раз у чатыры гады ў пад'ездах і раз на год на вуліцы.**

## Курсы валют НБ РБ

| | 7.08 руб. | 14.08 руб. |
|---|---|---|
| Долар ЗША | 2077,00 | 2082,00 |
| Еўра | 2367,88 | 2341,73 |
| Злоты | 540,84 | 535,63 |
| Літ | 685,83 | 678,26 |
| Расійскі рубель | 68,55 | 68,52 |

**«Вулічныя» курсы ў Маладзечне**

| | | |
|---|---|---|
| Долар | 2070/2100 | 2080/2100 |

## Маладзечна Цэны на рынку

| Прадукты | Цана (руб.) 6.08 | 13.08 |
|---|---|---|
| Кілбаса с/вялен., 1 кг | 11600 | 12400 |
| Сасіскі, 1 кг | 4310 | 4310 |
| Селядзец, 1 кг | 2800 | 2800 |
| Рыс, 1 кг | 800 | 820 |
| Грэчка, 1 кг | 1450 | 1400 |
| Цукар, 1 кг | 1310 | 1310 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 850 | 900 |
| Алей, 1 л | 1850 | 1700 |
| Маянэз, 200 г | 500 | 500 |
| Кава «Пеле», 100 г | 2200 | 2200 |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 900 | 900 |
| Соус там.«Мінскі», 0,5 л | 800 | 700 |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 950 | 900 |
| Капуста, 1 кг | 300 | 400 |
| Морква, 1 кг | 500 | 700 |
| Лімоны, 1 кг | 2100 | 2000 |
| Апельсіны, 1 кг | 1950 | 1950 |
| Памідоры, 1 кг | 700 | 880 |
| Агуркі, 1 кг | 200 | 500 |
| Кавуны, 1 кг | 500 | 500 |
| Яблыкі, 1 кг | 1700 | 950 |
| **Сялянскія прадукты** | | |
| Малако, 1,5 л | 650 | 700 |
| Смятана, 1 л | 1800 | 1800 |
| Масла, 1 кг | 4600 | 4400 |
| Тварог, 1 кг | 1800 | 1800 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 1300 | 1700 |
| Бульба, 1 вядро | 3500 | 4000 |
| Вішні, 5-літр. вядро | 15000 | 14000 |
| Маліны, 5-літр. вядро | 8000 | 7000 |
| Чырв. парэчкі, 5-літр. | 4000 | 4000 |
| Агрэст, 5-літр. вядро | 6000 | 5000 |
| Чарніцы, 5-літр. вядро | 8000 | 8000 |
| Алыча, 5-літр. вядро | 3500 | 3000 |
| Слівы, 5-літр. вядро | 8000 | 6000 |
| Шыпшына, 5-літр. вядро | 2500 | 3000 |

■ ЯКІЯ МЫ

# П'янства дорага каштуе

**МАЛАДЗЕЧНА. У апошнія гады на ўчастку абслугоўвання Маладзечанскага аддзела унутраных спраў на транспарце пачасцілася колькасць правапарушэнняў, якія здзейсненыя ў стане алкагольнага ап'янення. Напэўна, многія маладзечанцы і жыхары рэгіёну звярнулі ўвагу на тое, што колькасць грамадзян, якія распіваюць спіртныя напіткі ці знаходзяцца ў п'яным выглядзе ў цягніках і на іншых аб'ектах чыгуначнага транспарту, не змяншаецца, а наадварот, расце, хаця транспартнай міліцыяй прымаюцца прафілактычныя меры.**

Так, сёлета па стану на 1 жніўня за парушэнне норм антыалкагольнага заканадаўства Маладзечанскім АУСТ да адміністрацыйнай адказнасці прыцягнуты 1493 чалавекі (у 2002 годзе – 1216). У параўнанні з адпаведным перыядам мінулага года з 1122 да 1374 вырасла колькасць грамадзян, якія затрыманы ў п'яным выглядзе ці распівалі спіртныя напіткі ў грамадскіх месцах на аб'ектах чыгуначнага транспарту. Прыкладна на 9% (ці з 58 да 65) павялічылася колькасць грамадзян, затрыманых на сваіх рабочых месцах за тым жа заняткам. Значна больш выяўлена і самагоншчыкаў – 54 (у 2002 годзе – 36).

Як паказвае практыка, дружба з зялёным змеем становіцца прычынай траўматызму і нават гібелі грамадзян пад коламі саставаў. Сёлета гэтага не пазбеглі два пасажыры.

З прычыны п'янства адбываецца шмат правапарушэнняў і сярод падлеткаў. І тут назіраецца тэндэнцыя да росту. Павялічылася колькасць (з 37 да 47) непаўналетніх, якія дастаўлены ў органы за з'яўленне ў п'яным выглядзе і за распіццё спіртных напіткаў у грамадскіх месцах. Прымушаюць задумацца і такія лічбы: з 10 да 24 вырасла колькасць падлеткаў, якія здзейснілі дробнае хуліганства. Аналіз паказвае, што прычынай гэтаму стала спажыванне спіртных напіткаў. І тут многае залежыць ад дарослых. Яны ці не рэагуюць, ці самі садзейнічаюць п'янству. Сёлета за 7 месяцаў супрацоўнікамі Маладзечанскага АУС на транспарце прыцягнута да адміністрацыйнай адказнасці 11 грамадзян, якія набывалі спіртное для непаўналетніх ці разам распівалі. Але больш за ўсіх у гэтым "вызначыліся" прадаўцы камерцыйнага магазіна "Фенікс-Тур", што на прывакзальнай плошчы. Яны толькі ў першым паўгоддзі ўмудрыліся тройчы рэалізаваць спіртное непаўналетнім. Магчыма, матэрыяльная выгада стала на першае месца, і ім няма справы да лёсу падрастаючага пакалення, хаця па арт.145 КоАП РБ прадугледжаны вялікі грашовы штраф.

Раўнадушша дарослых вядзе да рознага роду злачынстваў. Так, напрыклад, 7 ліпеня, бліжэй да паўночы, выпіўшы непаўналетні Ц. у кампаніі з трохі старэйшым у раёне пуцеправода здзейсніў разбойнае нападзенне на адзінокага прахожага. З мэтай завалодаць асабістым яны збілі сваю ахвяру і хацелі ўцячы з месца злачынства. Вынік: абое змянілі свабоду і вучобу ў ПТВ на малапрыемнае абмежаванне прасторы за калючым дротам.

У сувязі з гэтым варта яшчэ раз нагадаць усім, што празмернае спажыванне спіртнога наўрад ці прыхарашыць шэрыя жыццёвыя будні. Хутчэй, гэта прыбавіць у іх яшчэ чорных колераў, паколькі за памылкі прыходзіцца расплачвацца не толькі грашыма і свабодай, але і жыццём.

**Ігар ЯКАЎЛЕЎ,**
**старшы ўчастковы інспектар ІДН Маладзечанскага АУСТ.**

■ СЛАВУТЫЯ ІМЁНЫ

# Гетман Украіны

**Непадалёку ад Вілейкі ў маляўнічым месцы на беразе некалі вяртлявай рэчкі Касуткі, якая стала цяпер залівам Вілейскага вадасховішча, знаходзіцца вёска Касута, якая здаўна славіцца старажытнымі храмамі, знатнымі ўладальнікамі мясцовых маёнткаў і сваімі жыхарамі.**

11 кастрычніка (22 па новым стылі) 1672 года тут нарадзіўся выдатны ўкраінскі дзяржаўны дзеяч Піліп Орлік, чыя роля ў станаўленні незалежнасці нашай паўднёвай суседкі ў расійскіх і савецкіх падручніках замоўчвалася, але пераацаніць яе цяжка. Паходзіў Орлік са старадаўняга чэшскага баронскага роду. Палітычныя абставіны ў час паражэння на радзіме гусінскай рэвалюцыі прымусілі аднаго з яго прадстаўнікоў выехаць з Чэшскага каралеўства ў Польшчу, дзе да радавога імені дабавілася яшчэ назва "de Lasiska". З польскай лініі, што перанеслася на Літву і Беларусь, з шляхецкага роду герба "Навіна" і паходзіць непасрэдна будучы гетман Украіны.

Бацька яго, Сцяпан, ва ўзросце 51 год, калі Піліп быў яшчэ немаўля, у 1673 годзе загінуў пад крэпасцю Хоцін (цяпер горад на рацэ Днестр у Заходняй Украіне), калі прымаў удзел у польска-турэцкай вайне. Усе турботы пра дзяцей леглі на плечы маці Ірэны Малахоўскай з літоўска-беларускага шляхецкага роду герба "Грымала", якая ахрысціла сына па праваслаўным абрадзе, магчыма, ужо другі раз, бо бацька быў каталіком.

Якім чынам Орлікі апынуліся ў Касуце тагачаснага Ашмянскага павета, пакуль невядома, як невядома і пра першыя крокі Піліпа. Да школы ён хадзіў у ваколіцах роднага месца ("У школу на Літве"), але ўжо ў маладыя гады з'явіўся ў Кіеве, дзе атрымаў добрую адукацыю ў Кіева-Магілянскім калегіуме (пазней акадэміі), якая была першай у Расіі, да адкрыцця ў 1755 годзе Маскоўскага універсітэта, вышэйшай школай і адыгрывала важную ролю ў справе асветы. Прафесарам красамоўства і філасофіі ў калегіуме быў Сцяпан Яворскі, якога ў 1700 годзе асвяцілі на мітрапаліта Разанскага і Мурамскага , а праз два гады прызначылі яшчэ на больш высокія царкоўныя пасады ў Маскве.


Гетман Украіны Піліп Орлік.

Малады студэнт прыкіпеў да яго душой і пасля ўсё жыццё ставіўся да свайго настаўніка з павагай. Без сумнення, Орлік звярнуў на сябе ўвагу ўжо ў калегіуме, дзе засвоіў пышнасці рытарычнага стылю, майстэрства валодання лацінскай мовай, якая была неабходнай ў тыя часы, уменне складаць лісты, мемарыялы, дагаворы ў яснай і лагічнай форме.

Як адзін з найлепшых выпускнікоў, Піліп спачатку працуе пісарам у кансісторыі Кіеўскай метраполіі, а прыкладна з 1693 г. – у Генеральнай вайсковай канцылярыі, дзе зрабіў бліскучую кар'еру. Яго высокая адукаванасць, здольнасць і працавітасць прыцягнулі ўвагу гетмана Івана Мазепы, які шукаў добрых і сумленных супрацоўнікаў, якім можна было даверыцца.

Пасля шлюбу з дачкой Ганнай палтаўскага палкоўніка Паўла Герцыка атрымаў у пасаг значныя маёнткі, што паставіла яго яшчэ бліжэй да казацкай арыстакратыі Левабярэжжа. У 1702 годзе Орлік прызначаецца на пасаду генеральскага пісара, змяніўшы даволі вядомага Васіля Качубея. Ён значна лепш, чым хто іншы з гетманскага акружэння, арыентаваўся ў дзяржаўных справах, выконваў важнейшыя з іх. Карыстаўся даверам Мазепы і пастаянна знаходзіўся каля яго. Быў з ім і ў кастрычніку 1708 года, калі шведскі кароль Карл XII ваяваў супраць Пятра I і ўвайшоў з войскамі на Левабярэжную Украіну. Мазепа перакінуўся на бок караля.

Пасля паражэння шведаў у Палтаўскай бітве 1709 года яны разам з шведскай арміяй апынуліся на турэцкай тэрыторыі ў Бендэрах, дзе неўзабаве з роспачы памірае "мяцежны" гетман. Які, як паказаў час, быў не здраднік і сябелюб, а чалавек, які пайшоў за голасам сумлення народа і ўсё аддаў, як і яго аднадумца, за "светлы ідэал нацыянальнай незалежнасці". У красавіку наступнага года казацкая рада, у процівагу Івану Скараподскаму, стаўленіку Пятра I, гетманам Украіны выбрала Піліпа Орліка, а праз месяц Карл XII адзначыў гэты выбар спецыяльным дыпломам.

Адной з важнейшых спраў маладога гетмана, з адабрэння казацкіх старшын, стала пагаджэнне, якое ўвайшло ў гісторыю пад назвай "Канстытуцыя праў і свабод Запарожскага войска". Упершыню ў Еўропе была выпрацавана рэальная мадэль вольнай, незалежнай дзяржавы, заснаванай на нязнаных дасюль прынцыпах дэмакратыі, і якая нават некаторы час дзейнічала на тэрыторыі Правабярэжнай Украіны.

У сакавіку 1711 Орлік з арганізаванай ім шаснаццацітысячнай украінскай арміяй, якую падтрымлівала звыш 30 тысяч палякаў, запарожскіх казакоў і крымская арда, рушыў на Украіну. Атрымаўшы на сваім шляху шэраг перамог, гэта войска неўзабаве падышло да Белай Царквы і асадзіла яе.

Аднак разлад, які пачынаўся у стане саюзнікаў, і прыбліжэнне расійскай арміі вымусілі Орліка зноў адступіць да Бендэр. З гэтага часу пачалося жыццё гетмана ў эміграцыі, якое расцягнулася на доўгія 30 гадоў.

Спачатку жыў у Швецыі, дзе Карл XII штогод плаціў яму 13 тыс. таляраў, частка якіх ішла на ўтрыманне канцылярыі. У 1718 годзе на полі бою ў Нарвегіі быў забіты шведскі кароль, з якім Орлік звязваў надзеі на вызваленне Украіны, схіляючы таго да новай вайны з Расіяй, вымушаны быў з сям'ёй пакінуць Швецыю і пераехаць ў Германію.

Петр I хоча атрымаць у свае рукі Орліка і прапануе яму і яго сям'і амністыю, аднак гетман-эмігрант не пайшоў на гэта, каб не несці ў сабе ўсё астатняе жыццё нясцерпныя душэўныя мукі. Тады маскоўскі цар арганізаваў насільны захоп яго сям'і, якога цудам удалося пазбегнуць. Жонка і дзеці хаваліся ў розных манастырах, ў адным з якіх памёр малодшы сын, на якога ўскладваліся вялікія надзеі. Усяго ў сям'і Орлікаў было 8 дзяцей, 3 сыны і 5 дачок, хроснымі бацькамі якіх сталі вядомыя дзеячы тых краін, дзе яны нараджаліся. Сын Орліка Рыгор пасля паражэння Турцыі ў руска-турэцкай вайне (1735-1739 гг.) выехаў у Францыю, дзе працягваў справу бацькі ў спробе нацыянальнага адраджэння сваёй Бацькаўшчыны, атрымаўшы тытул графа і званне генерала на французскай службе.

Далейшы жыццёвы лёс завёў П. Орліка ў Польшчу, Францыю, а затым у Турцыю. Апошнія 12 гадоў пражыў у Салоніках (Грэцыя). Потым пераехаў у Ясы, дзе і памёр 24 мая 1742 года ў адзіноце.

Добра ведаючы каля дзесяці моў, пакінуў пасля сябе паэтычную і публіцыстычную спадчыну, сярод якіх кніга пра Івана Мазепу, "Дыярыюш (штодзённік) падарожжаў", які ён вёў з 1720 па 1731 гады, і інш.

Памятаюць пра Піліпа Орліка і на яго радзіме – Беларусі. Актывісты беларускага аб'яднання ўкраінцаў "Ватра" выступаюць ініцыятарамі ўстанаўлення ў Касуце памятнага знака ў яго гонар.

**Анатоль РОГАЧ.**

■ ДУМКІ ЎСЛЫХ

# Нечаканыя ўражанні

**Адэса ў 1973 годзе сустрэла нас знаёмымі сонечнымі вуліцамі і залатымі пляжамі. Але падрыхтавала і нечаканыя ўражанні.**

Зноў спыніліся побач з морам на турбазе. Знаёміліся з тымі, хто адпачываў.

— Размаўляйце з намі, калі ласка, па-беларуску, — папрасіла Аксана, выкладчыца музычнага вучылішча з Цярнопаля, якая даведалася, што мы з Беларусі. – Ваша мова та-ка-я цудоўная!

Яна гаварыла па-беларуску з прыемным украінскім акцэнтам. Гэта надавала яе гаворцы прыемную задушэўнасць і напеўнасць. Я прызнаўся ў любві да ўкраінскай мовы, з якой пазнаёміўся ў гады акупацыі.

— Беларуская прыгажэй! – цвёрда сказала Аксана. – Вашая мова такая мілагучная. На яе незвычайную чароўнасць расплюшчыў вочы ўсяму свету ансамбль "Песняры". Ён з такім трыумфам гастраляваў і на Украіне. Кожную песню слухачы віталі моцнымі авацыямі. Здавалася, рухнуць сцены. Такіх выканаўцаў, скажу як спецыяліст у галіне музыкі, яшчэ не было і няма ў свеце!

Яна шмат чаго ведала пра "Песняроў". Сказала, што Уладзімір Мулявін, рускі хлопец са Свярдлоўска, падараваў людзям незвычайнае хараство беларускай мовы і мядовую мілагучнасць народных песень.

— У нас на Украіне "Песняры" пакінулі глыбокі след у душы кожнага, — працягвала Аксана. – Паўсюдна арганізаваліся гурткі па вывучэнні беларускай мовы. На занятках пачалі вучыць беларускія вершы, байкі і празаічныя творы, такія ж меладычныя, як песня. Калі развучвалі песні, то яны былі ў першую чаргу з рэпертуару "Песняроў". І з вуснаў Аксаны палілося звонкім ручайком: "Касіў Ясь канюшыну"...

— Украінскае тэлебачанне папоўнілася заяўкамі на дэмакратызацыю беларускіх спектакляў. Гэта ж шэдэўры драматургіі. Асабліва такія, як "Паўлінка" Янкі Купалы, "Хто смяецца апошнім" Кандрата Крапівы. На жаль, тэлевізіёншчыкі псуюць гэты цуд дубляжом на ўкраінскую мову, так страчваецца самабытнае гучанне, глушыцца цудоўны голас душы народа. І без перакладу ўсё ж зразумела... Як я зайздрошчу вашаму народу, што ў вас такая чароўная мова!

Як жа прыемна было пачуць такое захапленне прыгажосцю нашай мовы і нашых песень ад украінскай знаўцы музыкі!

Ехалі дадому, перасякаючы з поўдня на поўнач і Малдову, і Заходнюю Украіну. Нібы імчаліся на крылах словы нашых знакамітых "Песняроў". І дзе б мы ні спыняліся (ці на агляд славутых мясцін, ці на начлег), часта чулі:

— Беларусь? А-а, гэта Мінск, трактары, самазвалы ... І "Песняры"!

Часта чулі і просьбы пагутарыць па-беларуску.

Прыехалі ў Брэст – і зноў патанулі ў недарэчнай "Трасянцы", сумесі скажоных рускіх і сапсаваных беларускіх слоў. Не дзіўна: апошнія 200 год беларусам усялялі, што прыгажэйшай за рускую мову няма на свеце. Настойліва навязвалі яе праз школы, царкву, чыноўніцтва, газеты, а пры саветах яшчэ і праз радыё, кіно і тэлебачанне, нават у якасці сродка зносін. А хіба чужая мова можа стаць роднай?

А каб ведалі беларусы, як высока цэняць нашую мову рускія, палякі, украінцы, чэхі іншыя народы, то абавязкова гаварылі б на роднай, шчырай і чароўнай мове.

**Аляксандр НАРКЕВІЧ.**

■ СМАРГОНЬ: ЗАБЫТЫ ЗЯМЛЯК

# Аўтар антынацысцкай энцыклапедыі

**Смаргонь – з шэрагу тых паселішчаў, якія здаўна далі прытулак яўрэям. Прыкметнае ў гісторыі Беларусі мястэчка. Прыкметнае і ў лёсе яўрэйскага народа. Адсюль, са Смаргоні, – яўрэйскія паэты, вучоныя, мастакі, рэвалюцыянеры, вайскоўцы. Лёсы адных з іх добра вядомыя. Пра другіх у Беларусі альбо не ведаюць, не ведалі зусім альбо даўно забыліся.**

Адна з малавядомых постацяў – інжынер і гісторык Арон Абрамовіч. Ён нарадзіўся ў Смаргоні ў 1908 годзе. Закончыў Харкаўскі машынабудаўнічы інстытут. Відаць, з малых гадоў вызначаўся настойлівасцю, мэтанакіраванасцю. Вельмі рана страціў бацькоў. Маці памерла ў 1914 годзе, калі хлопчыку і шасці гадоў не споўнілася. Бацьку забілі ў 1918 годзе.

Напрыканцы завяршэння вучобы ў інстытуце Арона Абрамовіча арыштавалі за стасункі з замежнікамі. Было гэта ў 1936 годзе. Атрымаў 3,5 года зняволення.

Дыплом абараніў ужо, як вызвалілі. Яшчэ да вайны паспеў ажаніцца. Да 1960 года Арон з сям'ёй жыў у Сестрарэцку. У 1959 годзе колішні смаргонец быў рэабілітаваны. Праз год пакінуў Савецкі Саюз. Яшчэ больш як 40 гадоў жыў Абрамовіч у Тэль-Авіве. Паспеў зарэкамендаваць сябе прыкметным спецыялістам ў галіне авіяцыйнай прамысловасці.

Але гады, прыведзеныя ў Ізраілі, Арон Абрамовіч прысвяціў у асноўным гістарычным росшукам. Прыязджаў у Савецкі Саюз, каб папрацаваць у архівах, бібліятэках, сустрэцца з удзельнікамі другой сусветнай вайны.

Як вынік – своеасаблівая энцыклапедыя ў двух тамах "У рашаючай вайне. Удзел і роля яўрэяў СССР у вайне супраць нацызму". Выданне, якое б паўтарыла альбо дапоўніла матэрыялы, сабраныя Абрамовічам, так яшчэ і не з'явілася. Ні ў Ізраілі, ні ў краінах былога Савецкага Саюза. Выдатна было б, каб на кнігу ўраджэнца Смаргоні звярнулі ўвагу і беларускія гісторыкі. Магчыма, што работа Арона Абрамовіча зацікавіць і кнігавыдаўцоў Беларусі.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

# Сустрэча з агнём

**МАЛАДЗЕЧНА. Днём пажарнай службы лічыцца 25 ліпеня. Пры гэтым называюцца розныя даты яе заснавання. Я ж мяркую, што пажарныя з'явіліся тады, калі чалавек упершыню сустрэўся з агнём.**



Фота Аляксандра Грыгор'ева, IREX/ProMedia

### Перадгісторыя

Афіцыйныя звесткі пра маладзечанскую пажарную службу захаваліся з пачатку XX стагоддзя, калі ў складзе паліцэйскай управы горада стварылі пажарную каманду. Прозвішча стваральніка невядома. Днём адліку стала 17 красавіка 1918 года, калі ўпершыню ў гісторыі пажарнай аховы Маладзечна на месцы сённяшняй цэнтральнай плошчы прадэманстравалі магчымасці асноўнай і спецыяльнай пажарнай тэхнікі, а таксама складанасць баявых разлікаў. Жыхары змаглі ўпэўніцца ў фізічнай і баявой падрыхтаванасці супрацоўнікаў. Апладысментамі суправаджалася самавыратаванне з 30-метровай лесвіцы, якое прадэманстравалі начальнік каравула А.А.Новікаў, камандзір аддзялення В.Р.Астаховіч і пажарны В.В.Шышкоўскі. Да верасня 1939 года пажарная служба існавала пад кіраўніцтвам польскай валаснай управы. На ўзбраенні ў той час было 5 конных ходаў і 1 апаратыўны, на якім выязджаў начальнік.

### Ліхалецце

У 1941 годзе пажарную каманду расфарміравалі. Праз 3 гады яе зноў арганізавалі. У першыя дні на ўзбраенні былі толькі коні: асабісты склад дзяжурыў са сваімі конямі і калёсамі. Пазней пажарную каманду аснасцілі аўтапомпай ПМГ-1 і бартавой аўтамашынай ГАЗ-АА з помпай замежнага ўзору. На машыне выязджалі па 10 чалавек: 2 у кабіне і 8 наверсе. Вывозілася толькі 200 літраў вады, для таго, каб забяспечыць забор вады з адкрытай крыніцы. Потым машыну перадалі ў пажарную часць у Радашкавічы, дзе яна трапіла ў аварыю, і аднавіць яе ўжо было немагчыма.

З першых пасляваенных гадоў праводзіліся трэніроўкі і спаборніцтвы па пажарных відах спорту. У праграме былі амаль тыя ж віды практыкаванняў, што і цяпер. З цягам часу змянілася толькі тэхніка і абсталяванне.

### Пасля вайны

З 1947 па 1954 год маладзечанскую каманду ўзначальваў Цімафей Фурманаў. Гэта адно з нямногіх імёнаў таго часу, якое захавала гісторыя пажарнай часці. Тады ў штаце было больш за 60 супрацоўнікаў. Асабісты склад у асноўным дзяжурыў і праводзіў розныя работы па аднаўленні разбураных будынкаў і будаўніцтве новых. Дзяжурства было двух-, а пазней трохзменным.

Асабліва цяжкія першыя пасляваенныя гады, калі кожныя суткі здараўся пажар, а то і не адзін. На тэрыторыі Маладзечаншчыны лютавалі рэшткі розных бандыцкіх груповак, якія нярэдка палілі сяльчан і вяскоўцаў, забівалі гаспадароў хат. Відавочцы тых часоў успамінаюць, як варта выязджала ў далёкія месцы з вінтоўкай.

На ўзбраенні, акрамя вадзяных ствалоў, былі «гідрапульт-вядро» і «гідрапульт-кастыль». Гэтыя прылады нечым нагадвалі ранцавыя вогнетушыцелі. Першы з іх прымянялі для датушвання малых ачагоў, другі — для ўскрыцця канструкцый і ліквідацыі ачагоў у цяжкадаступных месцах (пад драўлянай абшыўкай, у паміжпаварховых перакрыццях).

У сакавіку 1954 года начальнікам каманды прызначылі Паўла Бузава. Пажарных поўнасцю ўтрымлівалі за кошт мясцовага бюджэту. Штаты і фінансаванне зацвярджаў гарвыканкам. Штогод выдзяляліся 340-360 тысяч рублёў. На ўзбраенні знаходзіліся два аўтамабілі ЗІС-150, адзін — ЗІС-5 і адзін — ГАЗ-53.

Штатная колькасць пажарных каманд склала ў Маладзечне 47 адзінак, у Радашкавічах — 7,5. Пажарную службу арганізавалі і ў Лебедзеве, Красным, Вілейцы.

### Прафесіяналы

Нарэшце ў 60-х гадах арганізавалі прафесійную пажарную часць. Але толькі па ахове радыёзавода «Спадарожнік», а затым і заводаў сілавых і паўправадніковых вентыляў (цяпер АТ «Электрамодуль»), лёгкіх металаканструкцый і парашковай металургіі. Такім чынам пытанні супрацьпажарнай абароны горада былі шмат у чым вырашаныя. У той жа час значная колькасць пажараў, якія ўзнікалі ў сельскай мясцовасці, да прыбыцця пажарных падраздзяленняў з горада тушылі жыхары і пажарныя-добраахвотнікі. Часта агонь знішчаў дзесяткі дамоў, а то і ўсю вёску. Падобныя пажары былі ў вёсках Вялікая Дайнава Валожынскага раёна, Асавец Радашкавіцкага сельскага Савета. 6 гаспадарак згарэлі ў Верадове ў 1969 годзе, 10 двароў у Мясаце ў 1978 годзе. Шмат сіл затрацілі на тушэнне пажараў у лясах і на тарфяніках. Моцна гарэў лясны масіў за пасёлкам Чысць, тарфянікі на месцы цяперашніх ачышчальных збудаванняў за вёскай Вялікае Сяло, калі з-за дыму нельга было праехаць па вуліцы Асіпенкі (цяпер Вялікасельская).

Каб палепшыць супрацьпажарную абарону сельскай мясцовасці, Савет Міністраў БССР прыняў Пастанову аб стварэнні міжгаспадарчых апорных пунктаў пажарнай аховы (МАППА). Такія апорныя пункты арганізавалі і ўтрымлівалі за кошт долевых укладаў 3-4-х суседніх калгасаў (саўгасаў), прадпрыемстваў. Першы з іх стварылі ў 1969 годзе ў Гарадку. Да канца 70-х гадоў МАППА арганізавалі ў Алёхнавічах, Малашках, Гранічах, Цюрлях, Беразінскім, Маркаве. А ў пачатку 90-х гадоў — у пасёлках Сасновы Бор і Чысць. Былі на апорных пунктах свае начальнікі. Мяняліся яны і ў Маладзечанскай пажарнай часці.

Пасля стварэння на базе часці апорнага пункта па тушэнні буйных і складаных пажараў у раёнах, што прылягаюць, яе ператварылі ў Маладзечанскі атрад прафесійнай пажарнай аховы. Узначаліў часць Пётр Більдзюг. За паспяховую ліквідацыю буйных пажараў на працягу сутак на Красненскім ільнозаводзе і ў лясным масіве ў раёне інфекцыйнай гаспадаркі і зверагаспадаркі ў 1966 годзе яго ўзнагародзілі медалём «За адвагу на пажары». Больш чым праз 10 гадоў П.Більдзюг атрымаў медаль за кіраўніцтва на пажары, што быў у 1978 годзе на льнозаводзе ў Смаргоні.

Прыкладна ў гэты ж час медалі заслужылі яшчэ 5 чалавек за тушэнне іншых пажараў.

### Ваенізаваныя пажарныя часці

У 1983 годзе ўрад рэспублікі прыняў рашэнне аб стварэнні ў гарадах з развітай прамысловасцю і на буйных выбухова-, пажаранебяспечных прадпрыемствах самастойных ваенізаваных пажарных часцей (СВПЧ). У Мінскай вобласці такія падраздзяленні стварылі ў Барысаве, Салігорску, Слуцку і Маладзечне. У апошнім горадзе тады ў гэтай справе служыў 51 чалавек. Дзяжурныя варты перайшлі на 3-зменны графік работы. На ўзбраенне ўсё часцей паступала новая тэхніка. Працягвалі працаваць пажарныя часці па ахове «Электрамодуля», «Спадарожніка», ЗЛМК, ЗПМ і ў Радашкавічах.

1986 год стаў годам выпрабавання адданасці службоваму абавязку. У ноч на 26 красавіка грымнуў Чарнобыль. І ўжо ў маі 1-е аддзяленне СВПЧ накіравалася на аўтацыстэрне на поўдзень Гомельскай вобласці. Потым яшчэ тры партыі супрацоўнікаў, змяняючы адзін аднаго, працавалі ў 30-кіламетровай зоне радыеактыўнага забруджвання. Аляксандра Кісяля, які двойчы быў там, адзначылі знакам «Лепшы работнік пажарнай службы».

### Нашы дні

У 1987 годзе начальнікам СПВЧ стаў Алег Шадыра. Менавіта пад яго кіраўніцтвам часць неаднойчы перамагала на розных спаборніцтвах па пажарным спорце. Стварылі і абсталявалі вучэбна-метадычны цэнтр па навучэнні насельніцтва правілам пажарнай бяспекі. У 1989 годзе прынялі рашэнне будаваць новы будынак пажарнага дэпо для СПВЧ. На справе рэалізаваць гэтую ідэю аказалася значна складаней, чым здавалася спачатку. Для таго, каб вытрымаць нарматыўны час прыбыцця да месца пажару ў межах горада, патрабавалася хаця б прыблізна захаваць геаграфічнае размяшчэнне новага будынка. Урэшце прынялі рашэнне будаваць на тэрыторыі, якая ўжо існавала.

Годам раней прафесійныя пажарныя часці ў Радашкавічах і на аб'ектах горада сталі ваенізаванымі і перайшлі з чатырох- на трохзменнае дзяжурства. Яны амаль поўнасцю камплектаваліся з грамадзянскай моладзі, што прайшла службу ў арміі, строгі медыцынскі адбор і шэраг іншых праверак. Цяпер гэта атрад ваенізаванай пажарнай службы Маладзечна. Хутка ў яго ўвайшлі асобныя пасты ваенізаванай пажарнай службы вёсак Маркава, Ізабеліна, Алёхнавічаў і пасёлка Беразінскае.

11 лістапада 1998 года ў горадзе пажарныя справілі наваселле ў пажарным дэпо па вуліцы Віленскай, дзе яны «жывуць» і да гэтага часу. Цяпер пажарнае падраздзяленне ўсё часцей ліквідуе не толькі ўзгаранні, а і ўсялякія аварыі.

Але гэта ўжо іншая гісторыя... XXI стагоддзя.

**Падрыхтавала Ірына РАБУШКА.**

## Апавяшчальнік – ваш спакой

**Пажар – сэнс гэтага слова ўспрымаецца нашай свядомасцю часам вельмі позна і часцей за ўсё толькі тады, калі такое няшчасце ўжо здарылася. Тыя, хто пацярпелі, усведамляюць, што адбылося гэта па прычыне парушэння правілаў пажарнай бяспекі або асабістай неасцярожнасці абыходжання з агнём.**

На працягу некалькіх апошніх год у Маладзечанскім раёне рэзка абвастрылася становішча з гібеллю людзей на пажарах. У 2002 годзе ў агні загінула 25 чалавек. За мінулы перыяд 2003 года загінула 7 чалавек.

У мэтах папярэджання пажараў і гібелі людзей у агні праводзіцца комплекс прафілактычных мерапрыемстваў. Адной з папераджальных мер з'яўляецца ўстаноўка ў дамах аўтаномных пажарных апавяшчальнікаў, якія кантралююць канцэнтрацыю дыму ў памяшканнях. Апавяшчальнікі прызначаюцца для кругласутачнай бесперапыннай працы. Прымаючы ва ўлік тое, што гібель людзей на пажарах адбываецца ў асноўным у начны час, то становым бокам аўтаномнага пажарнага апавяшчальніка з'яўляецца яго кругласутачная работа.

Ужо маюцца вынікі. Так 16 чэрвеня 2003 года ў адной з маладзечанскіх кватэр на пятым паверсе гаспадар пакінуў ежу на пліце, а сам прылёг адпачыць. Прыкладна праз гадзіну ў кватэры спрацаваў аўтаномны пажарны апавяшчальнік, які быў устаноўлены раней. Сігнал апавяшчальніка пачулі суседзі і выклікалі пажарных.

## Асцярожнасць не пашкодзіць

**Пры ўборцы ўраджаю і яго малацьбе нярэдка адбываюцца пажары як у полі, так і на зернесушыльных комплексах. Асабліва небяспечныя ў гэтых адносінах камбайны "Дон-1500".**

Рызыка ўзнікнення пажараў на іх куды вышэйшая, чым на іншых машынах. Фактычна кожную ўборачную кампанію "Доны" гараць з-за таго, што лопаюцца масляныя шлангі высокага ціску і масла трапляе на гарачы калектар. Таму раім укамплектоўваць іх вуглекіслотнымі вогнетушыцелямі, эфектыўнасць якіх куды вышэйшая, чым ОХП-10 ці яго парашковага сабрата.

Падліць пры пажары масла ў агонь можа і гумовы патрубак для зліву картэрнага масла, устаноўлены на днішчы рухавіка. У агні ён хутка перагарае, масла з рухавіка выцякае вонкі і тады ўжо камбайн не выратаваць. Не заўсёды механізатары ўдзяляюць увагу блоку акумулятарных батарэй, дзе павінна быць адмысловая чысціня, а таксама прымацоўваюць вогнетушыцелі да кранштэйнаў дротам, што таксама забараняецца.

Кіраўнікі гаспадарак ведаюць, як важна мець на полі аўтатэхніку, прыстасаваную для мэт пажаратушэння. Менавіта дзякуючы ёй удаецца лакалізоўваць пажары, ратаваць камбайны, хлебнае поле, людзей. Але не менш карысна памятаць і аб правілах бяспекі, выкананне якіх акупіцца і для гаспадара, і для ўсіх нас з лішкам.

**Цэнтр навучання правілам бяспекі Маладзечанскага гаррайаддзела па надзвычайных сітуацыях.**

■ ФУТБОЛ, КУБАК КРАІНЫ

# «Смаргонь» здалася праз паўтайма

**9 жніўня. 3000 гледачоў. Суддзя Вялічка. Смаргонь – Маладзечна-2000 1:4 (0:3). Галы: Карасёў (68); Вышынскі (13), Афанасевіч (15), Альховік (26), Урублеўскі (69).**

Склад "Смаргоні": 16.Шляхавой – 4.Курак, 2.Сінічын, 3.Судзін, 6.Трындзюк – 9.Кухлей (13.Тарасаў,28), 7.Грабаздзін (12.Дзігілевіч,28), 10.Карасёў, 8.Кукалевіч (17.Жачко,65) – 11.Валовік, 19.Кітурка.

Склад "Маладзечна-2000": 1.Сцепановіч – 2.Пятроўскі, 4.Крывіцкі, 5.Афанасевіч, 3.Дрозд – 6.Лявончык (13.Татун,62), 8.Альховік, 10.Вышынскі (15.Мальцаў,74), 9.Дараховіч (14.Савіцкі,92+), 7.Якімчык – 11.Урублеўскі.

Дзіўная рэч... Смаргонцы маюць клубны бюджэт большы, чым маладзечанцы. Гэта пацвярджаецца тым, што нядаўна запрасілі футбаліста (Кухлея) з "Маладзечна-2000". Узмацніліся і яшчэ некалькімі гульцамі, тады як іх сапернікі страцілі амаль поўны склад і вымушаны будаваць каманду па-новым. Тым не менш, 1:4 – лік на табло. Гэта паражэнне разам з неаптымальным чэмпіянатным выступленнем і кубкавым правалам летась дае падставу сумнявацца ў прафесійных якасцях людзей, якія працуюць у "Смаргоні".

Трэба аддаць належнае – гульня ўвесь час была роўнай, гаспадары нават займелі перавагу, калі "Маладзечна-2000" завяршыла свой стартавы бліцкрыг. Але маладыя футбалісты гасцей больш жадалі перамагчы, а іх трэнер лепш за свайго апанента ведаў, як гэтага дабіцца. Галявыя атакі распачыналіся з чужых правалаў на флангах, завяршальныя ўдары наносіліся без перашкод з цэнтра, ды і Шляхавой ні разу не выратаваў партнёраў. Гаспадары ж імкнуліся, што называецца, "прадавіць" праціўніка, але забілі толькі тады, калі бліскучае індывідуальнае майстэрства прадэманстраваў іх капітан.



Дзмітрый Вышынскі быў самым актыўным падчас стартавага бліцкрыгу маладзечанцаў.

Фота з сайта www.fcmolodechno2000.com

Лявончык выхапіў мяч на правым краі штрафной, падбег Вышынскі і моцна стрэліў у блізкі кут (0:1). Вышынскі падаў вуглавы злева, мяч пракаціўся ўздоўж варот, яго кранууся Афанасевіч, і яшчэ Карасёў безвынікова імкнуўся выбіць прадмет гульні ў поле (0:2). Вышынскі, выкарыстаўшы памылку абаронцы, увайшоў у штрафную з левага фланга і адпасаваў ад вонкавай лініі Альховіку, які прасіў мяч, знаходзячыся каля сегменту штрафной. Лявончык пазмагаўся з абаронцамі, тым самым вызваліўшы партнёру пазіцыю для ўдару, і Аляксандр дакладна стрэліў у накірунку левай штангі (0:3). У адной са шматлікіх атак смаргонцаў Трындзюк прайшоў па левым флангу і небяспечна ўдарыў, але мяч крануўся абаронцы і пайшоў на вуглавы. Пры яго выкананні справа Курак выкаціў скураную сферу пад удар Карасёву, які, знаходзячыся на лініі штрафной насупраць штангі, літаральна разбамбіў блізкую "дзевятку" (1:3). Тут жа маладзечанцы наладзілі сваю атаку праз правы фланг і зарабілі права на штрафны ўдар. Як тыдзень таму супраць БАТЭ, Дараховіч выканаў падачу ў цэнтральную зону штрафной пляцоўкі, дзе Урублеўскі ўдарам галавой накіраваў мяч у сетку (1:4).

Пасля перапынку каманды мелі яшчэ па адным стопрацэнтным моманце, але контратакі загубілі Лявончык і Кукалевіч. Што тычыцца паўмомантаў, то, безумоўна, у смаргонцаў іх было больш. Бадай, кожны з гульцоў атакуючай лініі пагражаў варотам, напрыклад, актыўны Кукалевіч аднойчы трапіў у штангу.

На трыбунах тым часам ішло цікавае спаборніцтва фанатаў у прымяненні галасавых дадзеных. Маладзечанскіх, дарэчы, было крыху больш, але напрыканцы яны, відаць, не вытрымалі псіхалагічнага напружання і ўзарвалі ў сваім натоўпе дымавую шашку, таму ў хуткім часе пры "ўдзеле" міліцыі сектар апусцеў.

Так, з 13 стартаў у кубкавых розыгрышах маладзечанцы ні разу не саступілі на стадыі 1/16-й фіналу. На жаль, смаргонцы тройчы сустракаліся на гэтай стадыі з камандамі вышэйшай лігі і заўсёды прайгравалі.

## «Забудова» трымалася амаль тайм

**10 жніўня. 3000 гледачоў. Суддзя Ромін. Забудова – БАТЭ (Барысаў) 0:4 (0:1).**

Галы: Шкабара (43), Камароўскі (58, 72), Рубненка (75). Склад: 1.Мялюк – 4.Байлукоў, 6.Казяк, 5.Гулевіч, 3.Івашкевіч – 2.Абановіч (12.Ждановіч,46), 9.Смірноў, 10.Матусевіч (18.Ясюкевіч,70), 7.Янель, 8.Антановіч (17.Грыхуцік,59) – 11.Вяжэвіч.

Чысцінцы, акружаныя прыхільнікамі, якія святкавалі Дзень будаўніка, трымалі свае вароты на замку цэлы тайм. Мяч трапляў у перакладзіну і штангу, шмат разоў прылятаў да варот са "стандартаў", а вось у сетку ён заляцеў толькі перад самым перапынкам пасля розыгрышу вуглавога, калі гаспадарам стала не хапаць фізічных сіл і ўважлівасці.

Хаця ў складзе гасцей (іх, дарэчы, падтрымліваў цэлы фанатычны сектар) былі амаль усе футбалісты "асновы", напрыклад, сямёра гульцоў маладзёжнай зборнай (тыя ж аўтары галоў Шкабара і Рубненка), героем матча стаў 17-гадовы рэзервіст Камароўскі. Ён забіў два мячы: спачатку дакладна прабіў галавой пасля падачы справа, а потым замкнуў далёкую штангу ў контратацы. Апошні гол таксама быў забіты ў контратацы – забудоўцам ужо складана было паспяваць за гасцямі. Добра, што ў канцоўцы барысаўчане не сталі асабліва "драпежнічаць". Затое здзівілі сваёй бязглуздасцю шукальнікі прыгод, якія кінулі дымавую шашку прама на поле.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

■ КОНКУРС

## Перамог Дзяніс Ротміраў

З 10 адказаў, якія прыйшлі на першы тур, ніводны не ўтрымліваў 2-х правільных лікаў, але ў 8 адказах быў правільна спрагназаваны 1 лік. З гэтых васьмі прэтэндэнтаў толькі маладзечанец Дзяніс Ротміраў змог правільна вызначыць 4 зыходы, астатнія – менш.

### Другі тур

**З якім лікам завяршацца наступныя матчы?**

23-24 жніўня, чэмпіянат краіны.
Белшына (Бабруйск) – Маладзечна-2000.
Гомель – БАТЭ (Барысаў).
Смаргонь – МТЗ-РІПА (Мінск).
28 жніўня, Кубак УЕФА (асноўны час).
Дынама (Мінск) – Брондбю (Капенгаген, Данія).
Сцяуа (Бухарэст, Румынія) – Нёман (Гродна).

**Адказы прымаюцца да пятніцы, 22 жніўня. Іх трэба дасылаць на паштовы адрас рэдакцыі альбо на электронны адрас konkurs@tut.by.**

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

■ АНОНС

**16 жніўня. 16-00. Маладзечна-2000 (дубль) – Дынама (Мінск, дубль).**
+0=0-5 1-23. У першым крузе 0:3 на выездзе.
**17 жніўня. 16-30. Маладзечна-2000 – Дынама (Мінск).**
+1=6-14 18-45. У першым крузе 0:4 на выездзе.
**17 жніўня. 17-00. Смаргонь – Тарпеда-Кадзіна (Магілёў).**
+0=2-1 0-1. У першым крузе 0:1 на выездзе.
**17 жніўня. 15-00. Забудова – Спартак-ВАР (Шклоў).**
+0=2-3 2-10. У першым крузе 0:3 на выездзе.

■ ГАРАДОШНЫ СПОРТ

## Насычаны жнівень

**Чацвёрты этап Кубка Еўропы прымаў расійскі Чарапавец. Пад эгідай каманды Мінскай вобласці ездзіла чацвёра маладзечанцаў: Сушко, Данілаў, Яршэвіч і Бладыка. Спаборніцтвы праходзілі па кубкавай сістэме.**

У асабістым першынстве Сушко і Данілаў дабраліся да паўфіналу. Напрыклад, у чвэрцьфінале яны перамаглі моцных прадстаўнікоў Урала, адпаведна Палякова і Песцерава. Яршэвіч спыніўся яшчэ ў 1/8-й у паядынку з чэмпіёнам свету Бабічам (Украіна), а Бладыка саступіў у сваім першым матчы.

У паўфіналах беларусам супрацьстаялі бацька і сын Духаніны з Поўдня. Сушко прайграў старэйшаму Васілю, а Данілаў – малодшаму Максіму. Потым у паядынку за 3-е месца Сушко быў мацнейшым за земляка 2:0. Сямейны ж фінал выйграў бацька з вялікімі складанасцямі па булітах.

У каманднай барацьбе нашы аказаліся не такімі паспяховымі. Перамаглі Паўночны Захад па булітах, прайгралі Украіне 0:2 і Уралу 1:2. У выніку атрымалася 5-е месца з 9 ўдзельнікаў. У фінале Украіна была мацней за гаспадароў 2:0, а ў матчы за 3-е месца Поўдзень узяў верх над Уралам 2:0.

Перад заключным пятым этапам, які ўжо распачаўся ў Ніжнім Ноўгарадзе, у беларусаў неблагія пазіцыі ў агульным заліку. Каманды: 1.Поўдзень Расіі. 2-3.Мінская вобласць (Беларусь) і Урал (Расія). 4.Украіна. Спартсмены: 1.В.Духанін. 2.Бабіч. 3.Сушко. 4.Песцераў. 5-6.Данілаў і Палякоў.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

■ ФУТБОЛ, ПЕРШАЯ ЛІГА

## Сын забіў гол бацькавай камандзе

**13 жніўня. 500 гледачоў. Суддзя Філатаў. Дынама-Юні (Мінск) – Смаргонь 1:3 (1:2).**

Галы: Емяльянчык (31); Валовік (40), Карасёў (45), Гірко (76). Выдалены Дзігілевіч (Смаргонь) на 87-й хвіліне.

Маючы гульнявую перавагу, смаргонцы ўсё ж прапусцілі першымі. Аднак яшчэ да перапынку выйшлі наперад у ліку. Спачатку Валовік метраў з васьмі з развароту трапна прабіў у падзенні, а потым Карасёў ударам галавой у скачку накіраваў мяч у далёкі кут. Канчатковую кропку ў матчы паставіў Гірко, які выйшаў на замену, тым самым дэбютаваўшы за "Смаргонь" (і адразу забіўшы гол) у матчы супраць каманды, якую ўзначальвае яго бацька, вядомы ў мінулым футбаліст мінскага "Дынама". Павел дасціпна выкарыстаў перадачу Валовіка з левага краю.

**13.08. Нёман – Граніт 0:1, Ліда – Ведрыч-97 0:1, Хімік – Лакаматыў (В) 0:1, Пінск-900 – ЗЛіН 3:5.**

| | |
|---|---|
| 1. МТЗ-РІПА | 38 |
| 2. Лакаматыў (В) | 36 |
| 3. ЗЛіН | 33 |
| 4. Граніт | 33 |
| 5. Ведрыч-97 | 30 |
| 6. Смаргонь | 30 |
| 7. Хімік | 28 |
| 8. Ліда | 26 |
| 9. Камунальнік | 23 |
| 10. Тарпеда-Кадзіна | 21 |
| 11. Днепр-ДЮСШ-1 | 19 |
| 12. Нёман | 17 |
| 13. Бяроза | 15 |
| 14. Вертыкаль | 14 |
| 15. Дынама-Юні | 12 |
| 16. Пінск-900 | 8 |

Бамбардзіры: Кузьмянок (МТЗ-РІПА) – 15 галоў; Савельеў (ЗЛіН) – 14...Валовік, Кітурка – па 7...Грабаздзін, Карасёў – па 5. **Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

■ АБЛАСНЫ ФУТБОЛ

## На чацвёртым месцы

**СМАРГОНЬ. Распачаўся другі круг чэмпіянату Гродзенскай вобласці.**

Каманда СКЗ-ДЮСШ-2 з 23 ачкамі займае 4 месца, маючы 7 перамог, 2 нічые, 4 паражэнні, розніцу забітых і прапушчаных мячоў 23-12.

Вынікі матчаў, пра якія "РГ" яшчэ не паведамляла. Супраць КФК (Слонім) 1:0 дома, "Надзеі" (Іўе) 1:1 на выездзе, "Хвалі" (Зэльва) 5:1 дома, "Хіміка" (Гродна) 0:1 на выездзе, "Камунальніка" (Шчучын) 4:1 дома, "Хімвалакна" (Гродна) 1:4 на выездзе, "Белкарда" (Гродна) 1:0 дома, "Нёмана-2" (Масты) 3:0 дома.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

## Табло

■ ФУТБОЛ, НАВІНЫ

7 і 9 жніўня ў Смаргоні прайшлі матчы юнацкіх зборных (U-17) Беларусі і Літвы. Нашы суайчыннікі абодва разы перамаглі 3:0 і 1:0. Галоўным арбітрам сустрэч быў Ігар Крук, яму дапамагалі Сяргей Ляшчынскі, Уладзімір Асіпёнка (усе трое з Маладзечна) і смаргонец Генадзь Паўлючэнка. У складзе беларускай каманды рыхтаваўся варатар Дзяніс Ганчароў з Маладзечанскай ДЮСШ (цяпер вучыцца ў РВАРы), але на поле ён не выходзіў. Дазаяўкі. "Маладзечна-2000" папоўніў абаронца Дзмітрый Афанасенка (1979) са светлагорскага "Хіміка", а ў "Смаргонь" прыйшоў варатар Андрэй Галаўнёў (1983) з віцебскага "Лакаматыва".

Па выніках жараб'ёўкі 1/8-й фіналу 8 кастрычніка "Маладзечна-2000" паедзе ў Салігорск да "Шахцёра".

■ ФУТБОЛ, ВЫНІКІ

13 жніўня. Асіповічы – Забудова 1:0. Гол: (78).

■ ЦЯЖКАЯ АТЛЕТЫКА

СМАРГОНЬ. На юнацкай спартакіядзе ў Мінску дзяўчаты Гродзеншчыны занялі першае месца, а хлопцы – другое. З 6 дзяўчат і 8 хлопцаў па 3 прадстаўлялі смаргонскую СДЮШАР (трэнер Станіслаў Красоўскі). У сваіх катэгорыях перамаглі Вадзім Войткус (62 кг), Надзея Дзеўяковіч (58 кг) і Анастасія Рогач (63 кг). Другія месцы занялі Віктар Чыжэўскі (77 кг) і Таццяна Яцкевіч (53 кг). Трэцяе месца ў Артура Лузгіна (85 кг).

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

